# Наш адказ

Беларускі тыднёвік «Ніва», што выдаецца ў Беластоку, падараваным, як ведама, пасьля апошняе вайны Сталінам Польшчы, у сваім нумары 43 за 23 сьнежня 1956 году, зьмясьціў артыкул К. Балінскага пад загалоўкам **«Да Рэдакцыі «Бацькаўшчыны».** Перад тым, як адказаць на стаўляныя аўтарам артыкулу пытаньні й закіды пад адрасам нашае газэты й наагул беларускае эміграцыі, мы сьпярша перадрукуем гэты артыкул, каб пазнаёміць зь ім нашых чытачоў.

**ДА РЭДАКЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

Спаткала мяне нечаканасьць, што мюнхенскі тыднёвік «Бацькаўшчына» з 2 сьнежня зьвярнуў увагу на маю скромную творчасьць і перадрукаваў урыўкі з рэпартажу «Беларусы над Одрай». Я ня супраць папулярызацыі маіх твораў, дзеля таго і займаюся журналістыкай. Ды справа ня ў тым.

Вы пішаце:

«Зьмешчаныя ніжэй вытрымкі з артыкулу (апублікаванага ў беластоцкай «Ніве» з 11. XI. 56) зьяўляюцца бадай найхарактэрнейшым адлюстраваньнем жыцьця нашых суродзічаў у Польшчы, якія, ня гледзячы на вялізарныя цяжкасьці, перашкоды й няспрыяльныя адносіны з боку польскіх уладаў, усё-ж у сваіх сэрцах захавалі беларускасьць, любоў да роднае мовы, песьні й сваіх багатых традыцыяў.»

**Няўжо-ж** рэдакцыя тыднёвіка так вузка разумее адбываючыяся перамены ў Польшчы, што зьмяшчаючы адну з шматлікіх публікацый падкрэсьлівае быццам яна найбольш характэрная.

Шаноўныя рэдактары, адчуваю, што ў Вас недахопы матарыялаў, прапаную: друкуйце часьцей нашыя публікацыі, — яны-ж аказваюцца цікавымі. Думаю, што аб Польшчы даволі шырока пішуць заходнія газэты, і «Бацькаўшчына» нічога новага не адкрывае.

Нашая беларуская нацыянальная меншасьць у Польшчы мае шмат цяжкасьцяў, аб якіх і пішам, але і мае поўныя мажлівасьці культурнага й грамадзкага разьвіцьця.

Чаму Вы ня возьмеце з нас прыкладу і замест намі займацца і ўспамінамі (мы таму ня супраць), не займецеся жыцьцём Беларусаў на выгнаньні. Мы добра ведаем, што жыцьцё іх там ня ўсім выслана ружамі, што многія з нашых суродзічаў кідаюць далярова-маркавы рай і вяртаюцца ў сваю бацькаўшчыну дзяліць з намі долю.

Вось аб жыцьці мас беларускіх эмігрантаў думаў я даведацца із старонак Вашага штотыднёвіка. А там ані слова аб іх, аб багатых і бедных, а шкада...

**К. Балінскі**

П. С. Калі Вам вашы пратэктары з Вольнай Эўропы не пазваляюць пісаць праўды аб жыцьці беларускай эміграцыі, прышліце артыкул да нас. Апублікуем.

**К. Б.**

*

Нам вельмі прыемна, што хоць нейкі нумар «Бацькаўшчыны», ня гледзячы на шчыльную зялезную заслону, трапіў у рукі нашых суродзічаў у Беластоку й што беластоцкая «Ніва» адгукнулася на яе вышэй перадрукованым артыкулам К. Балінскага. Аднак даслоўна ўсе цьверджаньні гэтага артыкулу аб жыцьці й дзейнасьці Беларусаў на эміграцыі не адказваюць праўдзе й прадстаўляюць нас у тэндэнцыйна дрэнным сьвятле ў вачох чытачоў «Нівы». Цяжка паверыць, каб гэта было вынікам толькі дрэннай паінфармаванасьці аб нас, бо «Бацькаўшчына», на якую паклікаецца «Ніва», шырака й праўдзіва адлюстроўвае жыцьцё Беларусаў у заходнім сьвеце й іхную нацыянальную дзейнасьць. Таму за прычыну хвальшывага асьвятленьня нашага жыцьця й дзейнасьці ў успомненым артыкуле «Нівы» прыходзіцца ўважаць толькі камуністычную мэнтальнасьць аўтара артыкулу й рэдактароў «Нівы», якая не дазваляе ім праўдзіва й аб'ектыўна глянуць на гэтую справу.

«Ніва» піша, што «Бацькаўшчына» ня інфармуе сваіх чытачоў аб жыцьці беларускай эміграцыі, й выказвае думку, што гэта нашы «пратэктары з Вольнай Эўропы не дазваляюць нам пісаць праўды аб жыцьці беларускай эміграцыі». Не даведаўшыся, такім чынам, з бачынаў «Бацькаўшчыны» «праўды» аб жыцьці Беларусаў на выгнаньні, «Ніва» хоча нас у гэтым выручыць, паведамляючы, што жыцьцё ня ўсіх беларускіх эмігрантаў «выслана ружамі», «што многія з нашых суродзічаў кідаюць далярова-маркавы рай і вяртаюцца ў сваю бацькаўшчыну дзяліць з намі долю».

Вось-жа спачатку хочам паінфармаваць «Ніву» аб сацыяльна-эканамічным палажэньні нашае эміграцыі. У кажнай краіне вольнага сьвету, дзе знайшлі гасьцінны прыпынак нашыя эмігранты, як Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, Канада, Аўстралія, Ангельшчына й інш., яны знаходзяцца ў тым-жа праўным палажэньні, што й грамадзяне гэтых краінаў, і маюць усе магчымасьці дасягнуць таго-ж самага матарыяльнага дабрабыту, што і яны. Усе нашыя суродзічы ў заходіх краінах могуць працаваць і працуюць на тых самых умовах, што й Амэрыканцы, Канадыйцы, Аўстралійцы ці Ангельцы, таксама, як і яны, карыстаюцца зь дзеючых там сацыяльных забясьпечаньняў. Там многія простыя беларускія работнікі пакуплялі ўжо сабе дамы, сяляне прыдбалі сабе зямельныя надзелы й завялі собскія гаспадаркі, многія работнікі маюць ужо свае собскія аўтамашыны, аб чым ня могуць і сьніць працоўныя «краіны перамогшага сацыялізму».

Праўда, невялікая колькасьць нашых суродзічаў з прычыны поўнай непрацаздольнасьці й адсутнасьці працаздольных у сваіх сем'ях не змагла выэміграваць і асталася ў Заходняй Нямеччыне. Адкрыта гаворым, што іхнае жыцьцё «ня выслана ружамі». Але гэта ў прыраўнаньні да жыцьцёвага стандарту насельніцтва краінаў Захаду. Але яны, карыстаюцца з тых самых сацыяльных забясьпечаньняў, што й непрацаздольныя Немцы, ды, апрача таго, з дапамогі міжнародных харытатыўных арганізацыяў ды сваіх суродзічаў у іншых краінах, жывуць без параўнаньня лепей, чымся на бацькаўшчыне беларускія калгасьнікі й няміласэрна эксплятаваныя савецкім дзяржаўным капіталізмам работнікі.

Таксама праўда, што некаторыя, хаця далёка ня «многія» з нашых суродзічаў «кінулі далярова-маркавы рай» і вярнуліся на бацькаўшчыну. Але гэта пераважна некаторыя нашыя эмігранты з Паўдзённай Амэрыкі, галоўна Аргентыны, што ў пошуках заработку выэміґравалі туды паміж абедзьвюма сусьветнымі войнамі і ніколі не пакаштавалі «бальшавіцкага раю». Затое спасярод усіх тых, што ўжо мелі няшчасьце пазнаць гэты «рай» на собскай скуры, вярнуліся з тых або іншых, пераважна з даволі цёмных прычынаў адно лічаныя адзінкі, тады калі, прыкладам, з Польшчы ўцякаюць на Захад цэлыя масы людзей усякіх прафэсіяў, рызыкуючы быць злоўленымі й судова пакаранымі. З Захаду-ж можа кажны легальна й бесьперашкодна вярнуцца ў сваю бацькаўшчыну за зялезнай заслонай, хто толькі захоча.

Мыляецца «Ніва», калі думае, што нам вельмі засмакаваў «далярова-маркавы рай», калі ня хочам вяртацца на бацькаўшчыну. Наадварот, мы ўсе хочам вярнуцца на бацькаўшчыну і верым, што яшчэ туды вернемся, калі разваліцца жахлівая маскоўска-бальшавіцкая турма народаў. Мы ішлі на выгнаньне ня толькі таму, каб вырвацца з бальшавіцкае няволі й сыстэмы паліцыйнага тэрору. Гэта была другарадная прычына. Мы пайшлі ў вольны дэмакратычны сьвет, каб свабодна прадаўжаць нашую нацыянальна-вызвольную дзейнасьць і захаваць цягласьць нашай нацыянальна-вызвольнай ідэі, чаго ня могуць рабіць нашыя суродзічы на бацькаўшчыне. І мы ўсё гэта робім у меру нашых сілаў і магчымасьцяў, аб чым Вы маглі-б перакаанацца з тэй-жа «Бацькаўшчыны», калі-б ня чыталі яе праз камуністычныя акуляры. У гэтым кірунку беларуская палітычная эміграцыя зрабіла ўжо вельмі шмат. Дзякуючы ейнай дзейнасьці ў галіне палітычнай, нацыянальна-грамадзкай, навуковай і культурнай прапаганды, беларуская вызвольная праблема сталася ведамай у цэлым вольным сьвеце, намі цікавіцца й нам спачувае ўвесь культурны й палітычны сьвет, з намі лічацца, як з суб'ектам і поўнапраўным партнэрам у сям'і волялюбных народаў, паняволеных сяньня бальшавізмам.

Што-ж датычыцца нашых «пратэктараў» з Вольнае Эўропы, што нам «не пазваляюць пісаць праўды аб жыцьці беларускай эміграцыі», дык тут зноў мэханічнае прытарнаваньне да нас тае сытуацыі, у якой знаходзіцеся якраз Вы і ўсе за зялезнай заслонай, дзе можна пісаць і рабіць толькі тое, што дазваляюць і загадваюць зьверху. Мы-ж ня толькі ня маем над сабой «пратэктара» эрганізацыі Вольнае Эўропы, але й наагул абыходзімся бязь ніякіх пратэктараў. Праўда, мы супрацоўнічаем з радам заходніх арганізацыяў, але вылучна на правох раўнапраўных і незалежных партнэраў. Не забывайцеся, што мы жывём у вольным дэмакратычным сьвеце і маем поўныя магчымасьці пісаць усё тое, што захочам. Ізноў-жа, калі-б Вы хоць на трохі вызбыліся бальшавіцкае мэнтальнасьці й аб'ектыўна праступдыявалі некалькі нумароў тэй-жа «Бацькаўшчыны», дык пабачылі-б, што мы ня толькі пішам аб беларускіх эмігрантах, іх добрых і благіх баках, але сьмела крытыкуем навет палітыку заходніх дзяржаваў, калі ўважаем, што яна няправільная.

Цяпер што да беларускага жыцьця ў Польшчы й асьвятленьня яго на бачынах «Нівы» ды жыцьця ў БССР, аб якім таксама «Ніва» піша. Вы пішаце, што беларуская меншасьць у Польшчы «мае поўныя мажлівасьці культурнага й грамадзкага разьвіцьця». Але ад якога часу гэтыя мажлівасьці заіснавалі? Ня гледзячы на тое, што ў межах сучаснай Польшчы знаходзіцца вялікая колькасьць Беларусаў, нацыянальная бальшыня на этнаграфічна беларускай Беласточчыне, гэтак і даволі вялікая мяншыня на г. зв. «земях одзысканых», ні аб ёй, ні аб яе культурна-грамадзкай дзейнасьці ня было ні слуху, ні духу. І толькі роўна год таму назад адкрыліся сякія-такія «магчымасьці» беларускага культурнага й грамадзкага жыцьця. Ды і то гэтыя «поўныя мажлівасьці», аб якіх Вы хваліцеся, далёка няпоўныя. Вось дзеля прыкладу, у нумары «Нівы», у якім Вы зьмясьцілі зварот «Да рэдакцыі „Бацькаўшчыны"», на іншым месцы чытаем аб наведаньні Вашым супрацоўнікам Аддзелу беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. Ён піша: «Філялёгія беларуская, а беларуская мова дана толькі так сабе „на прычэпку". Праводзяцца й будуць праводзіцца ў далейшым занятіі па польскай і рускай мовах». Зь іншага артыкулу таго-ж нумару «Нівы» даведваемся, што ў беларускіх школах Беласточчыны працуюць настаўнікі, што ані ў зуб ня ведаюць беларускае мовы, затое настаўнікі, ведаючыя беларускую мову, што скончылі беларускі пэдагагічны ліцэй у Гайнаўцы, працуюць у польскіх школах. Вы можаце сказаць, што гэта толькі часовыя арганізацыйныя цяжкасьці, якія зь бегам часу будуць пераможаны. Мы Вам шчыра гэтага жадаем. Але не забывайцеся, што гэтых пару характэрных ненармальнасьцяў зь беларускай мовай у Вас, гэта штодзённае зьявішча ў БССР, у беларускай «незалежнай дзяржаве», якая мае за сабой 38 год. Хіба-ж і Вам не сакрэт, што там праводзіцца шалёная прымусовая русыфікацыя й нішчэньне ўсяго нацыянальна беларускага, што і там беларуская мова ў школах і навуковых установах таксама «толькі так сабе „на прычэпку"». А Ваша «Ніва», у сваей вернасьці й цераэьмернай любові да расейскага «старэйшага брата», поўнасьцю такі стан апрабуе й захопліваецца беларускімі нацыянальнымі «дасягненьнямі» ў БССР, якіх фактычна няма.

Дык хто тады праўдзіва аблюстроўвае жыцьцё беларускае эміграцыі, жыцьцё Беларусаў у Польшчы і жыцьцё Беларусаў у БССР: «Ніва» ці «Бацькаўшчына»?

**Рэдакцыя**

*

**П. С.** У прыпісцы да артыкулу «Нівы» нам прапануюць пісаць артыкулы ў «Ніву» аб жыцьці й палажэньні нашае эміграцыі. Вось-жа мы моцна сумляваемся, ці наш такі артыкул быў-бы надрукаваны, калі мы ў ім пададзём усю праўду аб эміграцыі. Дык замест прапанаваць нам супрацоўніцтва, мы радзім рэдакцыі «Нівы» прыдбаць сваіх карэспандэнтаў зь беларускай Вільні й Віленшчыны, прылучанай да Летувы, дзе ўсякае беларускае нацыянальнае жыцьцё бальшавікамі забароненае. Навет беларуская гімназія ў Вільні, якая перажрывала найбольш сумныя гады ў рэакцыйнай перадваеннай Польшчы, цяпер бальшавікамі закрытая. Дык асьвятленьне на бачынах «Нівы» беларускага жыцьця ў Вільні й Віленшчыне было-б для ейных чытачоў асабліва цікавым і карысным.

# Бяз нас вырашаюць аб нас

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьне»)**

9-га студзеня менскае радыё паведаміла аб заканчэньні работы рэспубліканскага сходу партыйнага актыву. З дакладам выступіў першы сакратар ЦК партыі Беларусі Мазураў. Як заўсёды, у гэтым дакладзе было шмат прапагандовага пустаслоўя аб вялікіх дасягненьнях партыі, аб ейных «бацькаўскіх клопатах» і адданасьці партыі беларускага народу. На ўступе дакладу Мазураў пацешыў слухачоў, што ўсё ідзе добра, плян прамысловай вытворчасьці 56-га году выкананы на 101,6% і ў параўнаньні з 55-м годам, выпуск прадукцыі павялічыўся на 13%. Далей дакладчык пахваліўся, што плян будаўніцтва выкананы на 100%, рэч зразумелая, не падаючы ніякіх канкрэтных лікаў.

Аднак на гэтым скончыліся дасягненьні, і Мазураў быў змушаны перайсьці да недахопаў. А сьпісак гэтых апошніх выйшаў вельмі вялікі, і тут першы сакратар ЦК КПБ пачаў запярэчваць сам сабе. Напрыклад, як зразумець, што ў пералічэньні дасягненьняў Мазураў хваліўся, што першы раз за шмат гадоў выкананы плян будаўніцтва, а, пералічаючы недахопы, ён кажа, што «плян уводу ў эксплятацыю жылой плошчы выкананы толькі на 85,8% і далёка ня выкананы плян уводу ў эксплятацыю шмат камунальных і культурна-бытавых прадпрыемстваў...»? Далей, паводле Мазурава, плян адкорму сьвіней выкананы толькі на 55%; слаба выкарыстоўваюцца мясцовыя крыніцы продажы прадуктаў харчаваньня; слаба разгортваецца выраб тавараў народнага спажываньня і шмат іншых падобных недахопаў.

Што-ж, мы ўжо прывыклі да бальшавіцкіх справаздачаў і статыстык, пазбаўленых усякай лёгікі і простых арытмэтычных правілаў, мутных і немагчымых да спраўджаньня. Таксама мы навучыліся чытаць бальшавіцкую прапа-

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

*Я. Станкевіч*

# Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902-1915)

## Нашаніўцы, людзі й плыні

**(Да 50-ых угодкаў выхаду «Нашае Нівы»)*)**

Артыкул мой будзе складацца часткава із студыяў пары, пра каторую ў ім мова, часткава з успамінаў. Канчаючы ў 1909 г. месцкую школу ў Ашмяне (мне было тады 16 год), я быў ужо сьвядомы Беларус. Стрэўшыся із спраціўленьнем пры першай спробе ўсьведамленьня сваіх суседзяў, я стаўся бязупынным працаўнём у вадраджэнскім беларускім руху. Выпісаная ўвосень таго-ж году «Нашая Ніва» выпрастала некаторыя мае пагляды. Я адразу стаўся ейным карэспандэнтам. Пад сваімі карэспандэнцыямі я падпісаваўся мянушкаю «Янучонак», утворанай ад бацькавага імені. (Пасьлей я друкаваў і артыкулы ў «Н. Н.», падпісуючы іх здрабнелай хормаю «Станкеўчык» праўдзівага прозьвішча або мянушкамі). Таго-ж году, паехаўшы на дальшую навуку да Вільні, я асабіста пазнаёміўся з рэдакцыяй «Нашае Нівы». Адгэнуль я быў звычайна ў цесным супрацавенсьцьве з Нашаніўцамі», як із тымі, што пісалі да «Н. Н.», так із усялякімі іншымі. (Месяцаў сем у 1914 г. я працаваў у самой рэдакцыі «Н. Н.»). Казалі пра мяне, што я знаю ўсіх сьвядомых Беларусаў. Гэта, ведама, было перабольшаньне, але знаў я запраўды шмат, як шырока ведамых, так і мала або й сусім няведамых. І пасьлей, у часе і асабліва пасьля першае сьветнае вайны, аж да другое сьветнае вайны, я быў у контакце, часта ў вельмі блізкім, з Нашаніўцамі.

Артыкул мой ня будзе высіляючы. Найперш я ня буду гаварыць пра літаратуру; другое, абміну ўсё тое, пра што ўжо пісалі іншыя ў зьвязку із сёлетнімі ўгодкамі «Н. Н.»; дый, апрача гэтага, ня ўсё я абыму, бо дзеля абняцьця ўсяго патрабавалася-б шмат болей месца і часу, дый ладне ведаючы пра пару «Н. Н.», я ня ведаю ўсяго чыста. Спадзяюся, адылі, што найважнейшае ведаю і скажу.

Народ беларускі за больш як тысячагодні час свайго гістарычнага жыцьця перажываў розныя поры, — поры, у каторых нацыянальнае жыцьцё ягонае бурліла, кіпела, нат буйна пераліваласа за родныя граніцы, і поры, калі яно сьцякала ў свае граніцы, а нат і такія поры, у якія гэтае жыцьцё заціхала, тлела і аказвалася адно асобнымі іскрамі. Найцяжэйшай парою ў гісторыі беларускага народу было дзевятнаццатае стагодзьдзе, асабліва пасьля 1839 г., і яшчэ болей па пагроме беларускага ўздыму 1863—1864 гг. Але й па 1864 г. іскры беларускага сьведама-нацыянальнага жыцьця і імкненьня да нацыянальнага адраджэньня ніколі ня гасьлі, але ня прымалі яны характару шыршае арганізаванасьці.

### Першая дзеяльнасьць беларускіх сацыялістых

Зьмена настала ў 1902 г. У Пецярбурзе ў 1902 г. закладаецца «Круг беларускае народнае асьветы і беларускае культуры». Гэты «Круг», між іншага, выдаў «Вязанку» (зборнік вершаў) Івана Няслухоўскага і «Калядную пісанку». Тады яшчэ было забаронена ў Расеі друкаваць пабеларуску; дзеля таго, падаючы «Вязанку» ў цэнзуру, напісалі, што гэта баўгарскі зборнік вершаў. Таго-ж году ў Лябёдцы Лідзкага павету В. Івноўскі разам із брацен ьнікам Валэйкам выдалі адзін нумар газэты «Свабода»[1]).

Узімку 1902 г. часьць моладзежы сацыялістычнага кірунку закладае «Беларускую Рэвалюцыйную Партыю». З паміж ейных арганізатараў А. Бурбіс адзначае Івана Луцкевіча, Антона Луцкевіча (мянушка «Антон Навіна»), Казімера Кастравіцкага (мянушка «Карусь Каганец»), В. Зелязея; гэтыя былі ў Менску. А ў Вільні былі: студэнт-тэхналёг Пранціш Умястоўскі («Дзядзька Пранук»), гімназісты Аляксандра Бурбіс («Піліп»). У Пецярбурзе былі: студэнт-тэхналёг Вячаслаў Іваноўскі («Вацюк Тройца»), студэнтка Алёіза Пашкевічанка («Цётка»). Партыя, між іншага, «друкуе ў Лёндане кніжку яго (Пранціша Багушэвіча) твораў на папяроснай паперы пад назовам «Песьні», з надпісам на вокладцы «С разрешения Синодальной типографии». У тым-жа 1902 г. партыя зьмяніла свой назоў на «Беларуская Рэвалюцыйная Грамада». З найэнэргічнейшых працаўнёў у Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе можна назваць, апрача вышменаваных — Хвэлікса Стацкевіча («Аганёк»), студэнта Пецярбурскага ўнівэрсытэту, родам із Шчучына Лідзкага пав., студэнта Матусэвіча, студэнта рыскае палітэхнікі Аляксандру Ўласава[2]).

Як бачым, усё гэта была моладзеж, блізу адны студэнты (студэнтам хіміі быў таксама Антон Луцкевіч, студэнтам Археалёгічнага Інстытуту ў Пецярбурзе быў Іван Луцкевіч).

### Праблема моладзежы

На гэтым месцы нельга не закрануць праблемы моладзежы, наймя грамадзкай і палітычнай працы ейнай. Ёсьць народы, каторых моладзеж, пакуль не паканчае школаў, грамадзка й палітычна не працуе, але толькі займаецца навукаю й спортам. У другіх народаў, наадварот, моладзеж ідзець уперадзе ў грамадзкім і палітычным руху. Можна зацеміць, што да першых належаць народы, маючыя палітычную незалежнасьць, народы гаспадарствавыя; да другіх пераважна належаць народы безгаспадарствавыя. У народаў гаспадарствавых звычайна ёсьць даволі рабачаёў бяз моладзежы, у народаў-жа безгаспадарствавых часта грамадзкіх рабачаёў не стаець. Гэта адна прычына розьніцы ў паступку моладзежы. Другой прычынаю ёсьць патрэба нацыянальнага узгадаваньня самае моладзежы. У народаў гаспадарствавых усё жыцьцё працята нацыянальнай атмасфэраю, дзеля таго там і без грамадзкай працы моладзеж працінаецца ідэялёгіяю свайго народу. Ня тое ў народаў безгаспадарствавых; у гэтых не пануе так моцна нацыянальная атмасфэра, бо дзеля гэтага недаволі ў іх нацыянальных установаў, тут моладзеж бяз учасьця ў нацыянальнай працы ня была-б уцягнена ў жыцьцё свайго народу, нацыянальнае жыцьцё памалу рабілася-б ёй няцікавым, чужым, і вырасшы такая моладзеж заставалася-б бязьдзейнай. Дзеля таго ў народаў без свайго гаспадарства, а ў нас асабліва, канечне трэба, каб моладзеж грамадзка працавала, а калі не стаець старшых, дык каб працавала й палітычна.

### Дальшая дзеяльнасьць беларускіх сацыялістых

У 1903 г. адбыўся першы зьезд партыі (Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады), на каторым было пастаноўлена «дабівацца краёвай аўтаноміі Беларусі із соймам у Вільні». Пастаноўлена таксама «распрацаваць зямельную праграму на аснове канфіскацыі бяз выкупу панскіх двароў, скарбовых і іншых».

*) Гэты артыкул быў прачытаны ў Нью Ёрку на Культурна-Асьветным Сходзе, 23-га сьнежня 1956 г. і 20-га студзеня 1957 г., ладжаным Культурна-Асьветным Рэфэратам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

# Канец „адлігі" ў БССР

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

У гэтай спробе паставіць на абмеркаваньне некаторыя факты зь беларускае гісторыі бальшавіцкая «дэсталінізаваная» цэнзура ўгледзела сьмяротны замах на чысьціню «ленінскіх прынцыпаў», раскапала «сур'ёзныя прынцыповыя памылкі». Каб не дапусьціць да небясьпечных выказваньняў на гэтую тэму. «Зьвязда» катэгарычна сьцьвердзіла:

«М. Ларчанка ставіць пытаньне аб пераглядзе ацэнак творчасьці А. Гаруна, К. Каганца і Ядвігіна Ш. не з такога пункту гледжаньня і не з такой мэтай, (г. зн., ня з мэтай паказаць, напрыклад, чаму А. Гарун у часы рэвалюцыі «змагаўся супраць савецкае ўлады ў лягеры нацыяналістычнай контррэвалюцыі...» — А. Б.) Ён пераносіць спрэчку аб літаратурнай спадчыне гэтых пісьменьнікаў і ейным значэньні для разьвіцьця беларускае літаратуры на чыста абстрактную, схалястычную аснову, ігнаруючы па сутнасьці ленінскія прынцыпы партыйнасьці пры ацэне літаратурных зьяваў. Творчасьць А. Гаруна цікавіць М. Ларчанку толькі як зьява чыста эстэтычная, якую ён усяляк імкнецца адгарадзіць ад ейнага ідэйна-палітычнага зьместу. А. Гарун — гэта па Ларчанку перш за ўсё таленавіты майстар слова, які быццам-бы шчыра любіў Беларусь, беларускі народ, дбаў аб ягонай волі, шчасьці і г. д. Калі-б А. Гарун шчыра любіў сваю радзіму і свой народ, ён-бы не змагаўся супраць улады рабочых і сялян. .

«М. Ларчанку не падабаецца, што ў нашай палітычнай літаратуры А. Гарун, К. Каганец і Ядвігін Ш. кваліфікуюцца як буржуазныя нацыяналісты, буржуазныя лібэралы. Ён называе А. Гаруна буржуазным дэмакратам, які спачуваў сялянскай рэвалюцыйнай дэмакратыі, хоць і аддаваў значную даніну буржуазнаму нацыяналізму. М. Ларчанку патрэбна ў што-б там ні стала ахрысьціць А. Гаруна буржуазным дэмакратам, каб папрабаваць наблізіць яго да пісьменьнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, каб, значыць, знайсьці ў ягонай творчасьці «станоўчае, каштоўнае, прагрэсыўнае»... і г. д.

Галоўнае вастрыё сваіх нападак аўтары прыгаданага ў «Зьвязьдзе» артыкулу накіроўваюць на «Нашу Ніву». На спробу М. Ларчанкі даць гэтай газэце некаторыя дадатныя рысы (гл., прыкладам, вытрымку зь ягонага артыкулу ў «Б-не» з 7. I. 57, «Рэгабілітацыя «Нашае Нівы»), партыя адказала:

«Каб даць аб'ектыўную ацэнку гэтай газэце, трэба перш за ўсё вызначыць яе палітычны твар, гэта значыць выявіць яе пазыцыі ў васноўных пытаньнях грамадзка-палітычнага жыцьця таго часу. **Палітычны твар «Нашае Нівы», чоткі і ясны. Газэта прапаведвала рэакцыйныя ідэі бясклясавасьці беларускае нацыі, адмаўляла клясавую барацьбу, выдавала беларускі народ за «адну дружную сям'ю». Яна ганьбіла рэвалюцыйную барацьбу народных мас, заклікала рабочых не баставаць, а сялянам раіла «не ставіць празьмерных патрабаваньняў памешчыку». «Наша Ніва» настойліва і пасьлядоўна абараняла інтарэсы кулацтва, сталыпінскую аграрную палітыку. «Наша Ніва» была ворганам беларускіх буржуазных нацыяналістых у пэрыяд рэвалюцыйнага спаду, калі яны, ліквідаваўшы сваю нелегальную арганізацыю адкрыта прыстасаваліся да сталыпінскага рэжыму. Самі беларускія нацыяналістыя заяўлялі, што «Наша Ніва» была іхным штабам...»**

Далей «Зьвязда» пачынае мутную дыялектыку, каб выгарадзіць неяк дэмакратычнасьць і рэвалюцыйнасьць Купалы (аднаго з рэдактароў «Нашае Нівы»), Коласа, Цёткі, Багдановіча, Бядулі і іншых ад «буржуазнае нацыяналістычнасьці» «Нашае Нівы». Гэтую непасільную апэрацыю «Зьвязда» прабуе правесьці на разважаньнях, якія нікога і ў нічым не пераконваюць. Найбольш важкі аргумэнт, які змог падаць партыйны ворган у довад таго, што Ларчанка і да яго падобныя памыляюцца, гэта вось што: **«Толькі страціўшы партыйную прынцыповасьць,** можна пісаць, што такая газэта была «прагрэсыўнай, патрэбнай і карыснай».

Ад закідаў аўтару «партыйна непрынцыповага артыкулу «Зьвязда» перайшла да рэдакцыі «Літаратуры і Мастацтва»:

**«Рэдакцыя газэты «ЛіМ» не знайшла нічога лепшага, як аб'явіць па артыкулу М. Ларчанкі нікому непатрэбную дыскусію** (гэта там, дзе «свабода слова»! — А. Б.). Замест таго, каб пасьлядоўна адстойваць ленінскія прынцыпы партыйнасьці літаратуры, па-баявому змагацца супраць усякіх скажэньняў гісторыі нашай сацыялістычнай культуры, дапамагаць працаўнікам літаратуры і мастацтва павышаць свой ідэйна-тэарэтычны ўзровень, **рэдакцыя газэты стала на шлях «перагляду» бруднай бялізны беларускіх нацыяналістаў з мэтай знайсьці там што-небудзь «станоўчае, каштоўнае, прагрэсыўнае»...**

⁂

### Культурна-арганізацыйныя справы і выдавецтва

Па трэйцяй лініі, лініі культурна-арганізацыйных і выдавецкіх справаў, ад некаторага часу было выказана цэлы шэраг слушных крытычных заўваг у адрас самых розных беларускіх савецкіх установаў. У нумары «ЛіМ», дзе быў замешчаны Ларчанкаў артыкул, перадавіца дамагалася ад шэрагу рэспубліканскіх міністэрстваў і мясцовых уладаў рэакцыі на выказаную ў іхны бок крытыку. На Беларусі падрапежніцку вынішчаюцца прыродныя багацьці. На Беларусі руйнуюцца каштоўныя помнікі старажытнае беларускае культуры. На Беларусі выдаецца мінімальная колькасьць беларускіх кніжак, калечыцца беларуская мова ў радыяперадачах і інфармацыях БЕЛТА, ганебна занядбоўваецца тэатральнае мастацтва, нацыянальная кінаматаграфія і г. д. і г. д. Усе гэтыя пытаньні ціраз закраналіся на балонах «Літаратуры і Мастацтва», і — бязь ніякага выніку: гэта нікога ня турбуе. Таму, зьмяшчаючы перадавы артыкул «На крытыку трэба рэагаваць», (17. II. 56), газэта пісала:

**Было-б недаравальным ханжанствам** (крывадушнасьцяй — А. Б.) **сьцьвярджаць, што пасьля XX зьезду партыі ў нас пераваліся такія людзі** (бюракраты, «чыноўнікі-выканаўцы», якія дзейнічалі толькі паводля дырэктываў — А. Б.). **Яны толькі, як тыя камэльёны, набылі новую ахварбоўку і сяньня яны можа больш, чым хто, крычаць аб барацьбе зь бюракратызмам, аб новых формах і мэтадах працы, а на справе мёртвай хваткай трымаюцца за старыя формы, старыя звычаі».**

Адказваючы на перадавы артыкул «ЛіМ», ворган партыі, якая ў канстытуцыі абвесьціла «свабоду друку», назваў выступленьні ў вабарону беларускіх матарыяльных і духовых багацьцяў «беспрынцыповым крытыканствам».

Вось тыя пасьлясталінскія «палёгкі» ў духовым жыцьці беларускага народу, падсумаваныя цяпер камуністычнай партыяй. Свабоды слова няма! Права на нацыянальную самаабарону няма! Нацыянальная годнасьць толькі аднае нацыі можа ўшаноўвацца — «перадавое» расейскае. Маскоўская рэакцыя ізноў пачынае зацiскаць свае клешчы над паняволеным беларускім краем.

З колькімесячнае гісторыі «адлігі» ў БССР трэба зрабіць адпаведныя высновы.

**Папершае** — уся разрэклямаваная пасьля XX зьезду КПСС зьмена курсу, дэцэнтралізацыя, дэсталінізацыя, дэмаскалізацыя — усё гэта, пустое гаварэньне. У нацыянальна-культурным жыцьці паняволеных народаў няма ніякіх сутных зьменаў Ледзь толькі нерасейскія народы прабуюць аднавіць свае зьняважаныя культурныя вартасьці, ледзь толькі пачалі яны дамагацца ўшанаваньня іхнае нацыянальнае годнасьці, як партыя загнала ўсё гэта ў «беспрынцыповае крытыканства», «антыленінскія прынцыпы» і таму падобную «гэрэзію».

**Падругое** — як-бы ні напінаўся некаторыя Расейцы на Захадзе із сваімі замежнымі «экспэртамі савецкіх праблемаў» даводзіць, што ў Савецкім Саюзе няма нацыянальных праблем, — гэтыя праблемы (і канфлікты!) відавочныя на кажным кроку. Яшчэ году ня мінула ад часу абвешчаньня злачынстваў Сталіна, як партыя пачала выпрабаванай сталінскай прыхваткай, тонам а ля «Зьвязда» («брудныя выданьні», «брудная бялізна»!), ліквідаваць першыя спробы рэгабілітаваць нацыянальную годнасьць нерасейскіх народаў (аналягічныя да апісаных вышэй падзеі адбываюцца і ў іншых нерасейскіх рэспубліках).

**Патрэйцяе** — ня гледзячы на брутальныя намаганьні фізычна й духова здушыць беларускі народ, бальшавізм ня змог забіць у ім глыбокае нацыянальнае сьведамасьці. Інстынкт самаабароны і здаровыя духовыя парасткі выявілі сябе зусім нядвузначна ў пэрыяд кароткае гэтак званае «адлігі»: беларускі народ сьведамы свае гістарычнае й духовае апрычонасьці, беларускі народ шануе свае багатыя культурныя каштоўнасьці і прагне іх разьвіваць, гэты народ адпорны на духовую няволю, жыцьцяздольны і перагрывае расейскае камуністычнае ліхалецьце.

**Аркадзь Будзіч**

# Опэра «Надзежда Дурава»

Калі ў тэатральным мастацтве, — напрыклад, у пастаноўках опэры, ёсьць невялікі праблеск удачаў — савецкая крытыка не абмінае моўчкі гэтую зьяву. Аднак, яна ўсхваляе ня талент кампазытара, рэжысэра і актораў, а кіруючую ролю кампартыі, якая нібыта натхняе аўтараў і стымулюе іх да творчых посьпехаў. Пры гэтым яшчэ ўзносяцца хваласьпевы «гістарычным» пастановам ЦК КПСС і выцягваюцца цытаты зь Леніна аб гэтак званым «разьвіцьці нацыянальных культур».

Вось у Менску пабудавалі вялікі тэатр опэры і балету!

А ці ў ім ставяцца беларускія опэры? На працягу мінулага году ўсе спэктаклі паказалі сапраўдную сутнасьць таго, як праводзіцца нацыянальная палітыка ў рэспубліцы. На сцэне прайшлі такія расейскія опэры, як «Яўген Анегін», «Царская Нявеста», «Бахчысарайскі фантан», а таксама і сусьветныя — «Рыгалета», «Травіята», «Дон-Кіхот», «Сэвільскі цырульнік», «Эсмэральда» і шмат іншых. І ўвесь гэты разнастайны рэпэртуар выконваўся ў расейскай мове.

А дзе, пытаемся, беларускія арыгінальныя опэры, Хіба толькі адзіная опэра Цікоцкага «Дзяўчына з Палесься», што рэпрэзэнтавалася ў Маскве на дэкадзе беларускага мастацтва?

А трэба зазначыць, што ў Маскве, апрача гэтай опэры, беларускі тэатр выканаў таксама «Яўгена Анегіна» Чайкоўскага і «Страшны двор» Манюшкі. Гэта паказальны факт. У такой прапорцыі — а яна сталася ня выпадковай, бо да Ўсесаюзнай дэкады доўга рыхтаваліся — беларускае тэатральнае мастацтва было вельмі прыніжаным, а таму яно і ня мела магчымасьці паказаць сваёй самабытнай нацыянальнай постаці.

А ці можна назваць дасягненьнем беларускага тэатру новую опэру «Надзежда Дурава»? Ці сапраўды яна зьяўляецца скарбам нашай нацыянальнай культуры?

Гэтая опэра ад пачатку і да канца пабудавана беларускім кампазытарам Багатыровам паводля традыцыяў расейскай музыкі і, бязумоўна, раскрывае ўвесь свой зьмест з уласьцівым патасам расейскага патрыятызму.

Газэта «Зьвязда» з 8-га студзеня, у артыкуле «Патрыятычны спэктакль» аб гэтым зазначае:

«У васнову сюжэту опэры пакладзены сапраўдны факт, які адбыўся ў часе Айчыннай вайны 1812 году. Расейская дзяўчына выдала сябе за юнака і ўступіла ў рады дзеючай арміі. Нязвычайны ўчынак Дуравай выклікаў захапленьне перадавых людзей расейскага грамадзтва».

Гэта малаверагодны факт сяньня выкалупваецца зь мінуўшчыны расейскай гісторыі дзеля адлюстраваньня яго ў савецкай драматургіі. На вымогі савецкіх дыктатараў беларускія творцы мусяць «захапляцца» чужымі й фальшывымі тэмамі.

Багатыроў, які скончыў беларускую кансэрваторыю, які выхаваўся на беларускай народнай песьні, вымушаны цяпер адыйсьці ад роднай тэматыкі і сьпяваць пад чужую дудку.

Ці-ж у гэтым заслуга беларускага кампазытара, што ён «умела выкарыстоўвае, як піша «Зьвязда», лепшыя

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Бяз нас вырашаюць аб нас

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

ганду паміж радкамі. Таму мы навет паверым Мазураву, што накінуты Масквой плян, БССР выканала на 101,6%. Але, што з гэтага меў беларускі народ, — гэта ўжо іншая справа. І вось у газэце «Праўда» з 11 студзеня г. г. мы часткова знаходзім адказ на гэтае пытаньне: «Штодзень із сталіцы Беларусі ува ўсе канцы нашай радзімы, з краіны народнай дэмакратыі, — у Індыю, Іран, Эгіпет, Сырыю і іншыя дзяржавы высылаюцца аўтамашыны, трактары, станкі, радыёапараты, вырабы лёгкай прамысловасьці...» Варта заўважыць, што ў вышэйшым пералічэньні ўспамінаюцца якраз тыя краіны, у якія якраз ськіваваная бальшавіцкая інфільтрацыя, дзе Крэмль намагаецца выклікаць міжнародныя закалоты. І вось беларускі народ, які ніяк не зацікаўлены ў арабскіх ці іншых авантурах, на загад маскоўскіх сатрапаў мусіць высылаць сваё багацьце, якога так патрабуе сам. Крамлёўскія авантурнікі дзеля хімэрных мэтаў апанаваньня сьвету, экспляатуюць народы Савецкага Саюзу, каб магчы фінансаваць віжнародныя закалоты і падтрымоўваць напружанае палажэньне ў сьвеце.

Сход партыйнага актыву Беларусі пастанавіў «зрабіць буйны крок уперад у вырашэньні галоўнага эканамічнага заданьня СССР, за гігантычна найкарацейшы тэрмін дагнаць і перагнаць найбольш разьвітыя капіталістычныя краіны...» Далей выказваецца ўпэўненасьць, што «работніцкая кляса, калгаснае сялянства, савецкая інтэлігенцыя яшчэ шырэй разгорнуць сацыялістычнае спаборніцтва за выкананьне і перавыкананьне вытворчых пляпаў пленуму ЦК КПСС».

Тут пытаемся ў Мазурава і ягонай супалкі крамлёўскіх падгалоскаў, ці беларускі народ так ужо зацікаўлены у «даганяньні ды пераганяньні», а тым больш — у нэндзы і выліваньні поту па тое каб маскоўскія дыктатары вывозілі беларускае дабро ў Эгіпты, Сырыі ды ім падобныя краіны дзеля выкліканьня міжнародных закалотаў?

Адказ просты — НЕ!

**пс**

На гэтым зьезьдзе Беларуская Рэвалюцыйная Грамада пастанаўляе звацца «Беларускай Сацыялістычнай Грамадою».

Бурбіс (там-жа) адзначае імкненьне Беларускае Сацыялістычнае Грамады прылучыць да сябе закладзеную ў 1904 г. студэнтам Трусоўскім, М. Фальскім і А. Жабаю «Сацыялістычную партыю Белае Русі». Перамовы, адылі, не давялі да злучэньня. У 1906 г. Сац. Партыя Белае Русі перастала існаваць.

«Беларуская Сацыялістычная Грамада наагул мела найшыршыя замеры задзіночыць у сабе мясцовыя сацыялістычныя арганізацыі»[3]).

«Беларуская Сацыялістычная Грамада», улетку 1905 г., закладае ў Менску «Першы Краёвы Камітэт», а ў Вільні — «Другі Краёвы Камітэт». У 1905 г. БСГ выдаець цэлы сьцяг праклямацыяў пабеларуску. У тым-жа годзе партыя нажыла ў Менску сваю нелегальную друкарню. Загадаваў ёю Хвэлікс Стацкевіч, каторы дзеля гэтага мусіў навучыцца друкарства. «У сакавіку 1905 г.» Грамада склікала «І-шы сялянскі зьезд, каторы вынес пастанову адабраць зямлю ад паноў... і дабівацца краёвай аўтаноміі Беларусі із соймам у Вільні і інш.». БСГ арганізавала таксама «Беларускі Сялянскі Саюз»[4]).

«У студню 1906 г., у Менску адбыўся 2-гі зьезд БСГ». «У пытаньню пра гаспадарствавы лад зьезд пастанавіў змагацца за фэдэрацыйную дэмакратычную рэспубліку, за краёвую аўтаномію Беларусі із соймам у Вільні». Зьезд распрацаваў арганізацыйны статут і выбраў цэнтральны камітэт, у каторы ўвайшлі браты Іван і Антон Луцкевічы, В. Іваноўскі, і А. Бурбіс. У 1906 г. беларуская рэвалюцыйная праца і сярод сялян, і сярод работнікаў (асабліва ў Менску) вялася вельмі шырака; адначасна вялася праца сярод народных вучыцялёў і вучаніцкае моладзежы. Улетку 1906 г. БСГ узялася энэргічна за арганізаваньне сельскагаспадарскіх забастовак... У тым самым 1906 г. арганізуецца «Беларускі Вучыцельскі Саюз» і «Беларускі Саюз Вучыцельскіх Сэмінарыяў» і інш. Апрача вышменаваных працаўнёў. А. Бурбіс, з каторага я бяру гэтыя ведамкі, завець яшчэ ў сваёй працы некаторых новых выдатнейшых — С. Кукеля («Апанас»), К. Яноўшчанку («Параска»), С. Скандракова («Янка»), А. Шабуню. Дадам ад сябе яшчэ колькіх выдатных дзеячоў гэтага часу, наймя быў Станулевіч, ён быў арыштаваны, звольніўся з турмы па рэвалюцыі 1917 г., тады стаўся ведамы як выдатны каапэратыўны арганізатар, памёр у пачатку 20-ых год на сухоты, на каторыя захварэў у турме. Сюды-ж належыць Язэп Лёсік, вучыцель, пісьменьнік і публіцысты і Аляксандра Прушынскі (паэта Алесь Гарун), менскі работнік; абодвы яны былі засланыя да Сібіру, скуль зьвярнуліся па рэвалюцыі 1917 г. Прушынскі, праўда, належыў да пратыі максымалістых, але ідэялёгічна характарам свае дзейнасьці ня розьніўся ад сяброў Беларускае Сацыялістычнае Грамады; сама партыя максымалістых борзда перастала існаваць у Беларусі. Прушынскі, хворы на сухоты, на каторыя захварэў на засланьню, памёр у 1920 г., захварэўшы на крываўку. Лёсік асабліва адзначыўся, як нацыянальна-культурны дзеяч у час рэвалюцыі 1917 г. і пасьлей. У 1930 г. расейскія бальшавікі яго арыштавалі й выслалі. Няма ведама, ці жывець. Да Сібіру «на вечнае пасяленьне» быў высланы ў 1904 г. вышменаваны В. Зелязей[5]). У 1905—1906 гадох, калі я быў у першай клясе месцкае школы ў Ашмяне, там і ў цэлым павеце гудзела ад дзеяльнасьці беларускіх рэвалюцыянераў Аляксандры Барановіча і Чыжа. Троху пасьлей Чыж быў ведамы, як літаратурны крытык, што пісаў пад мянушкаю «Бульба». Барановіч працаваў на ніве беларускай і паміж дзьвюх сьветных войнаў.

З выступленьняў на міжнародным форуме БСГ адзначу ўдзел яе «у зьезьдзе партыяў Расеі ў Парыжу 1904 г. і ў сакавіку 1905 г. у зьезьдзе ў Жэнэве, на каторым былі: фінская партыя дзейнае абароны, ППС, армянскія дашнак-цюцюны, грузінскія эс-сэр фэдэралістыя, латыскія с.-р., расейскія с.-р.»[6]).

Крыху вышэй адцемленыя пастановы БСГ і склiканага ёю Сялянскага зьезду дамагацца краёвай аўтаноміі Беларусі із соймам у Вільні. Але ўжо тады кіраўніцтва БСГ мела наўвеце незалежнасьць Беларусі. Пра імкненьне БСГ да незалежнасьці Беларусі заявіў дэлегат гэтае партыі Шчасны (відавочна мянушка) на патайным зьезьдзе ў Расеі нацыянальна-сацыялістычных партыяў у 1907 г.[7]). У гэным часе лёзунг незалежнасьці Беларусі ня быў пашыраны ў нелегальных заклiках, бо народ да ўспрыйма гэтага лёзунгу ня быў яшчэ прыгатаваным; а ў дазволеных друках і пагатове ня мог быць такі лёзунг друкаваны, бо ня толькі дамаганьне незалежнасьці Беларусі, але нат дамаганьне аўтаноміі Расея ўважала за зраду гаспадарства і карала як за таковую.

1-га (новага стылю 14-га) верасьня 1906 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада пачала выдаваць газэту «Наша Доля». Усяго вышла 5 нумароў кірыліцаю й лацініцаю кажны і № 6-ы аднэй кірыліцаю. «Наша Доля» мела вельмі радыкальны характар. Із 6-ёх нумароў ейных 5 нумароў былі сканфіскаваныя цэнзурай. Дзеля таго выдаўцы «Нашае Долі» пастанавілі перастаць яе выдаваць і замест яе выдаваць «Нашую Ніву» каторай першы нумар вышаў 10 (новага стылю 23) лістападу 1906 г. пры гэтым спачатку побач із «Нашай Ніваю» вышлі яшчэ два нумары «Нашае Долі»[8]). «Нашая Ніва» мела шмат мярнейшы характар і праіснавала да нямецкае акупацыі ўвосень 1915 г.

Ад назову «Нашае Нівы» ўся разгляданая пара беларускага адраджэньня адзержыла назоў пары «Нашае Нівы» або «Нашаніўскае пары». Ведама, да гэтае пары належа ня толькі час, калі выходзіла «Н. Н.», але й час папярэдні ад 1902 г., бо ўвесь гэты час адзначаецца аднолькавым характарам беларускае дзеяльнасьці ды з тым самым галоўным стрыжнём у ёй. Характар гэтае пары не зьмяніўся-б ад таго, калі-б галоўная ейная газэта звалася ня «Нашай Ніваю», а начай.

Тое, што «Н. Н.», а неўзабаве і ейныя сяброве — іншыя часапісы беларускія выходзілі ўставічна, без перарыву, вытварыла давер, пэўнасьць, што пачатая дзеяльнасьць не запыніцца, — адным чынам трывалкасьць выдавецтва абумовіла трывалкасьць руху.

---

[1]) А. Бурбіс: Беларуская Социялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903-1907), б. 178 (зборнік «Беларусь», у Менску 1924).

[2]) Там-жа, б. 178.

[3]) А. Зіміонка: Соцыялістычны рух на Беларусі. II. Партыя соцыялістых-рэволюцыянераў, б. 166 (зборнік «Беларусь», у Менску 1924).

[4]) Бурбіс, там-жа, 179.

[5]) Бурбіс, там-жа, 180.

[6]) Там-жа. б. 181.

[7]) Протоколы Конференции Российских Национально-социалистических Партий 16-20 апреля 1907 г., СПР. 1908, б. 92.

[8]) Пра «Нашу Долю» гл. артыкул А. Шлюбскага «Новыя матар'ялы да гісторыі «Нашае Долі» (Полымя 1927 г., № 3) і таксама артыкул Н. Недасека «Паўвеку „Нашае Долі"» («Беларус» № 57, у Нью Ёрку 1957 г.).

(Далей будзе)

